



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№1(5) СТУДЗЕНЬ 2002 г.

# ВЕСТКІ

Пачалася праца над пятым выпускам гістарычнага зборніка "Браслаўскія сшыткі", які будзе прысвечаны мінуламу мястэчка Опса. У пісьмовых крыніцах гэта паселішча ўпершыню згадваецца пад 1500 годам. Ідзе апрацоўка назапашанага матэрыяла, прадстаяць грунтоўныя даследванні ў шэрагу буйных архіўных цэнтраў. У падрыхтоўцы зборніка бяруць удзел супрацоўнікі музея, сябры краязнаўчага таварыства. Рэдакцыя запрашае далучыцца да гэтай справы ўсіх ахвочых.



Напярэдадні Новага года пабачыў свет зборнік матэрыялаў канферэнцыі "Браслаўскія чытанні – 2000". Выданне аздоблена прыгожай вокладкай, на якой змешчаны план Браслава сярэдзіны XIX ст., мае ілюстрацыі. Частка накладу будзе перададзена ў бібліятэкі і школы раёна.



Надзвычай урачыстым, узнёслым было святочнае набажэнства ў калядную ноч у Браслаўскім касцёле Нараджэння Маці Божай. Упершыню яно цалкам было праведзена па-беларуску. Імшу аздаблялі светлыя, меладычныя калядныя спевы. Музычная частка была падрыхтавана касцельнай моладдзю пад кіраўніцтвам арганісткі Іны Сапун.



У Польшчы выйшла новая кніга пра Браслаўшчыну: "Гісторыя Браслаўскага павета ў XX стагоддзі". Выданне падрыхтаваў Юзаф Чэкан, прадмову напісаў вядомы гісторык, прафесар Toруньскага ўніверсітэта Станіслаў Александровіч. Асобнік кнігі ў хуткім часе будзе перададзены ў Браслаўскі музей.



Супрацоўнікам музея ўдалося ўстанавіць аўтарства царквы ў Іказні – помніка архітэктуры пачатку XX стагоддзя. Храм узведзены па праекту архітэктара Аляксандра Шпакоўскага. Паводле праектаў гэтага архітэктара ўзведзены таксама лячэбніца ў Браславе, царква ў Дрысвятах. Біяграфічныя звесткі пра А.Шпакоўскага чытайце ў гэтым нумары "Павета".



2002 год адзначаны двума памятнымі датамі, звязанымі з імем выдатнага даследчыка гісторыі Браслаўшчыны Отана Гедэмана (1887-1937): 115 гадоў з дня нараджэння і 65 гадоў з дня смерці.

Краязнаўчая і навуковая дзейнасць О.Гедэмана была вельмі кароткай – каля 10 гадоў, але зробленае ім уражвае. Гедэман з'яўляецца аўтарам 8 манаграфій, сярод якіх вылучаецца грунтоўная "Гісторыя Браслаўскага павета". Да цяперашняга часу гэта кніга, якая пабачыла свет у 1930 г., застаецца выдатным узорам краязнаўчага даследвання рэгіёну.

Працы О.Гедэмана сталі грунтоўным падмуркам пры далейшых даследваннях мінулага Браслаўшчыны і суседніх рэгіёнаў. Яго імя ўшанавана ў экспазіцыі Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, на старонках кніг "Памяць" Браслаўскага, Глыбоцкага, Мёрскага раёнаў. Імем О.Гедэмана названа Браслаўскае краязнаўчае таварыства.

У бягучым годзе, які можна назваць годам памяці О.Гедэмана, краязнаўчае таварыства плануе выпусціць памятны буклет і асобную паштоўку. У музеі будзе арганізавана выстава. На старонках "Павета" чытач зможа пазнаёміцца з шэрагам артыкулаў, якія будуць падрыхтаваны па выніках новых даследванняў біяграфіі і дзейнасці О.Гедэмана.



Отан Гедэман. Паштоўка з камплекта «Гісторыя Браслава ў малюнках». Браслаў. 2000 г.

# ВЕСТКІ

Вялікую працу па даследванню і абагульненню звестак пра мінулае сваіх родных мясцін правялі сябры краязнаўчага гуртка "Памяць" Іказненскай школы, якім кіруе Фаіна Савельеўна Махніс. Вынікам гэтай працы стаў прыгожа афармлены альбом у выглядзе старажытнай кнігі. Гістарычны матэрыял пададзены па раздзелах, з густам аздоблены. Сабрана шмат фотаздымкаў, сярод якіх ёсць вельмі каштоўныя. Альбом зберагаецца ў бібліятэцы і даступны для азнаямлення для ўсіх жадаючых.



21 снежня ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры адкрылася традыцыйная, ужо сёмая па ліку, выстава "Калядныя ўзоры". На ёй экспануецца шмат цудоўных вырабаў. Удзельнікі выставы – гэта і вядомыя на Браслаўшчыне майстры: М.Чэркас (Слабодка), Т.Цімошкіна, В.Зінкевіч і Э.Зінкевіч (Браслаў), А.Трукан (Дварышча) – і тыя, хто робіць першыя крокі ў гэтым кірунку.



**Пячатка земская Браслаўскага павета. 1735 г.** ***Рэканструкцыя В.Зінкевіча паводле адбітка на дакуменце з архіва Браслаўскай Свята-Успенскай царквы.***

*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

## Архітэктар Аляксандр Шпакоўскі

Аляксандр Шпакоўскі спраектаваў будынак Браслаўскай лячэбніцы і будынкі цэркваў у Дрысвятах і Іказні. Ён непасрэдна кіраваў узвядзеннем лячэбніцы, вельмі адказна аднёсся да гэтай працы. Дзесяткі гадоў лячэбніца служыла жыхарам Браслаўшчыны. Пра падрабязнасці яе ўзвядзення і ролю А.Шпакоўскага можна пачытаць у чацвёртым выпуску "Браслаўскіх сшыткаў". Апошнім часам сталі вядомы некаторыя біяграфічныя звесткі пра архітэктара.

Аляксандр Шпакоўскі нарадзіўся, верагодней за ўсё, у Санкт-Пецярбургу. Яго бацька – Аляксандр Шпакоўскі (1823-1881 гг.) – быў выхадцам са Смаленшчыны. Прозвішча і месца нараджэння ўказваюць на яго беларускае паходжанне. Аляксандр Шпакоўскі–старэйшы ўвайшоў у гісторыю як таленавіты вынаходнік. Звесткі аб ім падае Вялікая савецкая энцыклапедыя, ёсць і асобнае выданне (Белькинд Л. Александр Ильич Шпаковский. М-Л., 1949).



Прывядзём толькі некалькі фактаў. А.Шпакоўскі доўгі час працаваў выкладчыкам Паўлаўскага кадэцкага корпуса ў Санкт-Пецярбургу. У 50-я гады выканаў шэраг прац па ўдасканаленню фатаграфіі, у 60-я гады сканструіраваў начны сігнальны ліхтар, які знайшоў прымяненне ў расійскім і англійскім флатах, у 1873 годзе ён вынайшаў метад брыкеціравання торфа. А.Шпакоўскі – аўтар усім вядомага пульверызатара. У Маскве ён зрабіў першую электрычную ілюмінацыю пры каранацыі Аляксандра II. Дарэчы, імператар Аляксандр II быў хросным бацькам будучага архітэктара. Аляксандр-сын нарадзіўся верагодней за ўсё ў 70-я гады XIX ст. Вучыўся ў другім пецярбургскім кадэцкім корпусе. У 1900 годзе атрымаў вышэйшую адукацыю ў інстытуце грамадзянскіх інжынераў. Студэнтам удзельнічаў у ажыццяўленні некаторых праектаў у Пецярбургу. У сталіцы ён і пачынаў самастойную дзейнасць, але ў 1901 г. прызначаны на пасаду малодшага архітэктара Валынскага губернскага праўлення. У студзені 1902 г. пераходзіць на пасаду губернскага архітэктара ў г.Коўна (Каўнас). Браслаўскую лячэбніцу будаваў па даручэнню генерал-губернатара. Гэта лячэбніца стала ўзорам для ўсёй губерні.

У 1906 г. А.Шпакоўскі ў якасці заахвочвання за добрую працу пераводзіцца ў Вільню. Пэўны час быў епархіяльным архітэктарам. Актыўна будаваў храмы, сярод якіх цэрквы ў Дукштах, Іказні, Празароках, Галубічах, Нова-Свянцянах, Сітцах. Усяго пабудаваў і адрамантаваў 24 храмы, склаў каля 40 праектаў новых цэркваў. Высокую ацэнку атрымала новая царква на Закрэтнай плошчы ў Вільні, узведзеная А.Шпакоўскім у 1913 г.

Біяграфічныя звесткі пра А.Шпакоўскага пасля 1913 г. пакуль невядомыя.

# Як Казяны сталі Раманава-Нікольскім

Аб тым, што Казяны кароткі час называліся Раманава-Нікольскім стала вядома некалькі гадоў таму. У людской памяці гэты факт не захаваўся. Нядаўна ўдалося высветліць некаторыя падрабязнасці перайменавання.

Напачатку 1913 г. на абшарах Расійскай імперыі шырылася хваля розных урачыстасцей, прымеркаваных да 300-гадовага юбілея дынастыі Раманавых. Пад гэту дату святар Казянскай царквы намовіў сваіх прыхаджан раскашэліцца на новы іканастас і выказаў ідэю ўвекавечвання імені імператара Мікалая Крывавага ў назве паселішча. Нагадаем, што праваслаўныя святары ў той час былі адданымі слугамі расійскай імперскай палітыкі і навыперадкі імкнуліся засведчыць перад уладамі гэтую адданасць. Быў арганізаваны агульны сход жыхароў Казян, які пастанавіў хадайнічаць аб перайменаванні паселішча ў Раманава-Нікольскае. Наўрад ці хто з тагачасных жыхароў Казян мог адважыцца выказацца супраць гэтага адыёзнага рашэння. Пастанова пайшла гуляць па інстанцыях. Павятовае кіраўніцтва, начальнік губерні, земскі аддзел міністэрства ўнутраных спраў, міністэрства імператарскага двара ініцыятыву з ахвотай падтрымалі і зацвердзілі.

13 кастрычніка 1913 г. – дзень, калі Казяны страцілі сваю гістарычную назву на карысць афіцыёзнай. У царкве з гэтай нагоды адбылося ажно дзве службы. На сходзе жыхароў Казян у прысутнасці начальства Богінскай воласці было абвешчана, што з гэтага дня насельнікі паселішча становяцца раманава-нікольцамі.

"Крывавая" назва існавала нядоўга, але аднойчы спраўдзілася – падчас восеньскіх баёў 1915 года з германцамі: у баях за Казяны было бяздарна кінута пад знішчальны агонь непрыяцеля некалькі соцень маладых салдат.

***Кастусь Шыдлоўскі**, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея*



**Свята-Троіцкая царква. в.Казяны. Фотаздымак Яна Балзункевіча. Пач. XX ст.**

*Славутыя землякі*

# Хірург Данат Масальскі

Наш край багаты на цікавых людзей, якія пакінулі свой след не толькі на Радзіме, але і за яе межамі. Матэрыялы аб нашым земляку былі змешчаны ў часопісе аматараў Вільна і зямлі Віленскай, які выдаецца ў польскім горадзе Быдгошч.

Данат Масальскі нарадзіўся ў 1905 г. у Наваселлі каля в. Мікалаева ў збяднелай шляхецкай сям'і Антона і Каэтаны з Станкевічаў.Пасля заканчэння школы ў Мікалеве вучыўся ў гімназіі імя Р.Пірамовіча ў Дзісне з 1921-га па 1925–ы год. Гімназіст Данат браў актыўны ўдзел у жыцці гімназіі: выступаў у тэатральных пастаноўках, займаўся краязнаўствам, неаднойчы выступаў з цікавымі паведамленнямі па гісторыі Дзісеншчыны. Таксама быў сябрам харцэрскай арганізацыі, уваходзіў у склад рады Братняй дапамогі, асноўнай мэтай якой з'яўлялася аказанне помачы бедным вучням гімназіі. Сам жа Данат вучыўся не на бацькоўскую дапамогу, а на заробкі ад рэпецітарства. Урэшце гімназію закончыў з адзнакай.

У 1926 г. Д.Масальскі паступае на медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Хірургічную спецыялізацыю ён праходзіў у прафесара Карнеля Міхейды. Вядома, што ў часы вучобы ён узначальваў таварыства студэнтаў-дзіснян.

Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1932 г., прафесар Міхейда прызначае Даната Масальскага, як здольнага вучня, ва ўніверсітэцкую клініку. У 1934 г. ён ажаніўся з Галінай Драздовіч. У 1939 г. доктар атрымоўвае пасаду загадчыка хірургічнага аддзела Глыбоцкай лячэбніцы. Неўзабаве, пасля пачатку другой сусветнай вайны, яго мабілізуюць у Польскае войска. Пасля няўдалых дзеянняў, войска церпіць паразу і паручнік Д.Масальскі трапляе ў савецкі палон – яго вывезлі ў Казельск. У 1940 г. усе палонныя польскія афіцэры былі растраляныя. Данат Масальскі ацалеў толькі таму, што выратаваў жыццё генералу НКУС, зрабіўшы яму складаную аперацыю. Калі была створана армія Андэрса, наш зямляк уступіў у яе шэрагі. Разам з 2-м корпусам яго баявы шлях пралёг праз Ірак, Іран, Сірыю, Палестыну, Егіпет, Італію. Асабліва вызначыўся Д.Масальскі ў бітве пад Монтэ-Касіна. Ён выконваў функцыю ардынатара 3-га палявога шпіталю. На працягу шасці дзён і начэй з рызыкай для жыцця ваенны хірург праводзіў аперацыі. Яго службу і працу высока цаніў кіраўнік шпіталю прафесар-генерал Баляслаў Шарэцкі. Майстэрства і талент хірурга выратавалі жыццё не аднаму дзесятку чалавек, як салдатам арміі Андэрса, так і англійскім, італьянскім і палонным нямецкім салдатам.

Выдатная постаць Даната Масальскаг апісана ва ўспамінах М.Ваньковіча "Монтэ-Касіна" і А.Маеўскага "Вайна, людзі, медыцына". Пасля вайны шлях на Дзісеншчыну быў назаўсёды зачынены. Як мы зараз ведаем, усе хто вярнуўся з арміі Андэрса былі арыштаваныя.

З 1947 г. і да сваёй заўчаснай смерці ў 1963 г. Данат Масальскі жыў і працаваў у Торуні (Польшча). Туды ж пераехала яго сям'я – жонка з дзецьмі. Ён працаваў у 2-й хірургічнай бальніцы хірургам-ардынатарам. За гэты час правёў тысячы аперацый, чым заслужыў павагу і падзяку жыхароў горада. У працы "100 год торуньскай хірургіі"(1979 г.) В.Янджэйчык пісаў: "Доктар Данат Масальскі ..., дзякуючы глыбокім ведам, вопыту і асабістай абаяльнасці аб'яднаў вакол сябе шмат аднадумцаў, выхаваў вучняў паслядоўнікаў : Маліцкага, Сакалоўскага, Гернатоўскага і інш." Доктар Масальскі актыўна ўдзельнічаў у торуньскім аддзеле Польскага медыцынскага таварыства, выступаў з навуковымі даследваннямі, выкладаў хірургію ў медыцынскім ліцэі. У 1954 г.абраны дэпутатам гарадской рады Торуня. За сваё кароткае жыццё атрымаў шмат дзяржаўных узнагарод: "Залаты Крыж заслугі", "Срэбраны Крыж заслугі з мячамі", "Крыж храбрасці", "Зорку Італіі", англійскую Зорку за вайну 1939-1945 гг. і іншыя ўзнагароды. Яго дачка Галіна, выпускніца Гданьскай медыцынскай акадэміі працягвае справу бацькі, працуючы доктарам у бальніцы Торуня.

У Торуні памяць аб доктары Данатце Масальскім захоўваецца і зараз, праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля яго смерці.

***Вітаўт Ермалёнак**, настаўнік СШ№3 г.Мёры, кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага»*

# СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ ВАЙНЫ 1812 Г.

*Краязнаўчыя даследванні – гэта не толькі праца сярод старажылаў, архіўныя пошукі. Шмат можа даць уважлівая, карпатлівая праца з друкаванымі крыніцамі. Пра гэта нагадаў сталы аўтар нашага выдання, краязнавец і калекцыянер з Даўгапілса Мікала Паўловіч. Ён перадаў у музей некаторыя матэрыялы, якія датычацца вайны 1812 года на Браслаўшчыне. На жаль, яны не ўвайшлі ў адпаведны артыкул, падрыхтаваны для кнігі "Памяць". Вельмі цікавымі з'яўляюцца ілюстрацыі з кнігі Фабера дзю Фора "Напалеон. Руская кампанія 1812.", выдадзеная ў XIX ст. у Лейпцыгу. Тры ілюстрацыі датычацца тэрыторый Браслаўшчыны і Мёршчыны. Яны апубліканы з тэкстамі ў зборніку "Браслаўскія сшыткі". У гэтым нумары "Павета" друкуем малюнак, які паказвае французскі лагер на беразе возера Дрывяты.*

*Прапануем таксама чытачам урывак з дзённіка рускага афіцэра Мікалая Дурнаво (1792 – 1828 гг.), які адлюстроўвае падзеі на Браслаўшчыне. У 1812 г. М.Дурнаво быў прапаршчыкам, ад'ютантам князя Пятра Валконскага, генерал-кварцірмайстра расійскай арміі, і знаходзіўся пры стаўцы імператара Аляксандра І.*

*Дзённік упершыню быў апублікаваны ў часопісе "Знамя" (№ 8, 1987). Урывак падаецца паводле выдання "Русские дневники" (М., 1990).*

* * *

*19 чэрвеня 1812 г.* Раніца прайшла ў чаканні імператара. Ён прыбыў у 5 гадзін увечары, аднак не прыпыніўся ў Даўгелішках, а накіраваўся разам з князем Валконскім у Відзы. Мы таксама селі на коней і вечарам прыбылі ў Відзы, дзе нам былі падрыхтаваны кватэры. Прывялі шмат французскіх палонных. Я іх бачу першы раз.

*20* ...

*21.* Цэлую раніцу працаваў у князя Валконскага. Галоўная кватэра засталася ў Відзах. Арлоў вярнуўся разам з генералам Балашовым (Міхаіл Арлоў (1788-1842 гг.), у 1812 годзе паручнік, флігельад'ютант Аляксандра І, будучы дзекабрыст; Аляксандр Бала-шоў (1770-1837 гг.), у 1810 – 1812 гг. міністр паліцыі). Яны былі на перагаворах з Напалеонам. Імператар правёў больш гадзіны ў размове з Арловым. Ён смела адказаў маршалу Даву (Людвік Даву (1770-1823 гг.), маршал Францыі, камандуючы 1-м пяхотным корпусам), які спрабаваў зачапіць яго ў размове.

*22.* Барклай дэ Толі (Міхаіл Барклай дэ Толі (1761-1818 гг.), ваенны міністр, камандуючы 1-й Заходняй арміяй) прыбыў у Відзы апоўдні. Яго галоўная кватэра – у двух вярстах ад горада (маецца на ўвазе маёнтак Відзы-Лаўчынскія).

*23.* Мы былі вымушаны пакінуць Відзы і перанесці галоўную кватэру ў Замосце (на самай справе – Замошша)...

*24.* У 4 гадзіны раніцы мы рушылі ў дарогу. Галоўная кватэра была перавезена ў Бяльмонты – мястэчка, якое належыла графу Мануццы (Станіслаў Мануццы (1782-1874 гг.), маршалак шляхты Браслаўскага павета, прыхільнік Напалеона). Я выпіў каву з уладальнікам гэтага мястэчка. Імператар пазніўся з прыбыццём.

Толькі я сабраўся паабедаць, як князь адправіў мяне з лістом імператара да генерала Дахтурава (Дзмітры Дахтураў (1756 – 1816 гг.), генерал ад інфантэрыі, камандуючы пяхотным корпусам), які знаходзіўся ў Шаркаўшчах (Шаркаўшчына – рэд.) у 45 вярстах ад Бяльмонт. Я адправіўся туды ў паштовай карэце і прыбыў на месца па змярканні. Корпус адступіў у поўным парадку. Ад непрыяцеля нас аддзяляла Дзесна (Дзісна-рэд.). Пад камандаваннем Мюрата і Удзіно знаходзілася звыш 30 тыс.чалавек (Іаахім Мюрат (1771-1815 гг.), маршал Францыі, неапалітанскі віцэ-кароль, адзін з паплечнікаў Напалеона, камандуючы 4-м кавалерыйскім корпусам; Шарль Удзіно (1767 -1847 гг.), маршал Францыі, камандуючы 2-м пяхотным корпусам). Каб не быць адрэзаным Вялікай Арміяй, Дахтураў быў вымушаны накіравацца да Навагрудка (магчыма, Новы Пагост – рэд.). У першы раз я ўбачыў непрыяцеля. Не меў магчымасці вярнуцца ў паштовай карэце і таму ўзяў каня ў казака. Надвор'е было жахлівае: дождж ліў як з вядра, грамыхаў гром, маланкі асляплялі мяне. Жах гэтай начы ўзмацняла кананада. З гэтай прычыны я прыбыў у Бяльмонты толькі апоўначы. Імператар ужо з'ехаў адсюль.

*25.* Худа-бедна дабраўся да Іказні, дзе знаходзілася кватэра імператара. Гэта мястэчка размешчана ў 10 вёрстах ад Бяльмонтаў. Мяне схіляла да сну. Імператар, атрымаўшы рапарты Барклая, перанёс сваю галоўную кватэру ў Мілохаўку, адступіўшы на 3 польскія мілі ці на 21 вярсту.

*26.* Галоўная кватэра перанесена ў Янчыны, якія знаходзяцца непадалёку ад Дрысы. У час марша мы зрабілі невялікі перадых у Лепеле, невялікім гарадку на Дзвіне (хутчэй за ўсё, Леанполле – рэд.).



Бівак пры Рацкім мосце ля Браслаўскага возера. 18 ліпеня 1812 г.

*Артыкулы*

# БРАСЛАЎСКІЯ ПІСАЛЫ

*Археалагічны сезон 2001 года на Браслаўшчыне сярод іншага быў адметным тым, што ў культурных пластах перыяду Полацкага княства знойдзены 2 пісалы. На гарадзішчы Рацюнкі, дзе працавала экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Аляксандра Егарэйчанкі выяўлена бронзавае пісала з прыгожай прафіляванай лапатачкай. Другое пісала – жалезны стрыжань з простай лапатачкай у выглядзе трохкутніка. Яно знойдзена ў Дрысвятах экспедыцыяй Гродзенскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам Генадзя Семянчука.*

*Пісалы адносяцца да ліку рэдкіх знаходак. Да гэтага часу імі на Браслаўшчыне мог пахваліцца толькі Браслаў. Два экзэмпляры былі выяўлены на Замкавай Гары экспедыцыяй Леаніда Аляксеева ў 1955-56 гадах. У 90-х гадах па ўсёй Беларусі было вядома каля 50 знаходак пісалаў. На землях Беларусі іх ужывалі ў XI-XVI ст. Сустракаюцца пры даследваннях гарадскіх паселішчаў. Самая вялікая колькасць выяўлена ў Навагрудку (14) і Ваўкавыску (12).*

*Пісалы, як нецяжка здагадацца, гэта прыстасаванні для пісьма. Яны ўяўляюць сабой стрыжні даўжынёй 8-13 сантыментраў. Іншая назва пісалаў – стыло ці стыль ( ад грэчаскага stylos – палачка). Адзін канец стрыжня заточаны, другі выкананы ў выглядзе плоскай лапатачкі. Вострым канцом наносілі надпісы на спецыяльных дошчачках – цэрах. Лапатачка патрэбна была каб разгладжвацб воск і сціраць непатрэбныя запісы.*

*Цэра (ад лацінскага слова воск) – гэта блок з двух ці болей дошчачак, памерамі звычайна 8х14 см. Паміж сабой дошчачкі злучаліся паскамі са скуры. Кожная дошчачка мела з аднаго боку паглыбленне ("каўчэжац"), якое залівалася воскам. Бурцікі па краях засцерагалі запісы ад пашкоджанняў, заціранняў.*

*Дрэва вельмі дрэнна захоўваецца на гарадзішчах. У Беларусі вядома толькі адна знаходка цэры – у Брэсце. Яе можна ўбачыць у знакамітым археалагічным музеі – "Берасце". Больш 10 цэраў знойдзена пры даследванні Ноўгарада, дзе ў балоцістым грунце ствараюцца нядрэныя ўмовы для кансервацыі дрэва. У 2000 г. там знойдзена ўнікальная рэч – цэра з трох дошчачак, на якіх запісаны псалмы Давіда. Знаходка датуецца пачаткам XI ст. і з'яўляецца самай старажытнай кнігай усходніх славян.*

*Вернемся аднак да пісалаў. Часцей за ўсё іх рабілі з жалеза , потым лудзіравалі волавам ці бронзай. Сустракаліся цалкам бронзавыя стылі, ці зусім рэдка – з косці. Пісалы бываюць розныя па форме, памерах, прапорцыях: ад вельмі простых да надзвычай вытанчаных, прыгожых, зграбных.*

*Пісалы з Браслава да шэдэўраў не аднясеш. Адно з іх зусім простае, з лапатачкай у выглядзе трохкутніка. Лапатачка другога выграшана ў выглядзе зграбнага кубачка з адцягнутымі краямі, але ў цэлым прапорцыі пісала не вельмі прыгожыя. Самым прыгожым з чатырох пісалаў знойдзеных на Браслаўшчыне з'яўляецца пісала з гарадзішча Рацюнкі.*

*Пісалы – гэта важная, знакавая знаходка. Калі на гарадзішчы стыль знойдзены ўпершыню, гэта дазваляе аднесці паселішча да групы найбольш адметных.*

*Такім чынам у 2001 г. у гэты элітны клуб увайшлі Дрысвяты і Рацюнкі.*

*Пісалы – каштоўны і цікавы экспанат у экспазіцыі музея любога ўзроўня. З чатырох пісалаў, знойдзеных на Браслаўшчыне толькі дрысвяцкае зберагаецца ў Браслаўскім музеі. Рацюнкаўская знаходка ўпрыгожыць экспазіцыю музея гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Тым не менш, наведвальнік Браслаўскага музея неўзабаве зможа ўбачыць усе чатыры браслаўскія пісалы. Уласнымі сіламі зроблены іх дакладныя копіі. Зараз вядзецца праца па стварэнню калекцыі муляжоў пісалаў з іншых паселішчаў Беларусі. Зроблена некалькі цэраў. Пад час спецыяльнага музейнага занятку, ці экскурсіі можна будзе ўбачыць як пісалі нашыя далёкія продкі, паспрабаваць пакарыстацца пісалам самому. Занятк і з пісаламі будуць праводзіцца на традыцыйных летніках з элементамі эксперыментальнай археалогіі.*

**Кастусь Шыдлоўскі**, *навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея*




*Пісалы з: 1 - Рацюнкаў, 2 - Дрысвятаў, 3,4 - Браслава*



*Рэканструкцыя цэры.*

# ВАРАЖСКІЯ ЎЛАДАННІ НА БРАСЛАЎШЧЫНЕ

Полацкі ўніверсітэт перадаў Браслаўскаму музею тэкст даклада супрацоўніка гэтай ВНУ А.Трафімава "Да пытання аб канунге Эймундзе, князі Полацкім". Даклад быў прачытаны 20 чэрвеня 2001 г. на міжнародным практычным семінары "Міжкультурнае ўзаемадзеянне народаў у даліне ракі Заходняя Дзвіна-Даўгава: гісторыя і перспектывы", які адбыўся ў Полацку.

Складаны навуковы матэрыял са шматлікімі спасылкамі не падыходзіць да публікацыі ў гэтым выданні. Прапануем увазе чытача кароткі яго пераказ з акцэнтам на тыя моманты даклада, якія датычацца гісторыі Браслаўшчыны. Пазнаёміцца з матэрыялам даклада ў поўным аб'ёме можна ў бібліятэцы музея.

А.Трафімаў звяртаецца да постаці варажскага князя (конунга) Эймунда, які з дружынай ў XI ст. быў на службе ў Брачыслава Ізяслававіча і магчыма валодаў часткай Браслаўшчыны. Крыніцай аб жыцці Эймунда з'яўляецца Эймундава сага – старажытны ісландскі расказ. Бацька Эймунда конунг Рынг правіў у акрузе Рынгарык (Нарвегія). У выніку міжусобіцы Эймунд з пабрацімам Рагнарам і дружынай быў вымушаны адправіцца ў выгнанне. Конунг вырашыў накіравацца ў Русь (Гардарыку), дзе ў гэты час памёр князь Уладзімір і пачаліся разнагалоссі паміж Кіевам, Ноўгарадам і Полацкам. У 1024 г. Эймунд з дружынай (600 ваяроў) наняўся да князя Яраслава і служыў яму ў Ноўгарадзе два гады. Аднак з прычыны разыходжанняў па пытаннях аплаты варагі пакінулі Ноўгарад і перайшлі на службу да Брачыслава. У Полацку яны атрымлівалі столькі ж колькі і ў Ноўгарадзе, што на думку А.Трафімава сведчыць аб эканамічнай магутнасці Полацкага княства.

Эймунд з дружынай адыграў значную ролю ў падзеях 1026 года пры міжусобнай барацьбе князёў. У палон да варагаў трапіла жонка Яраслава Інгігерд. Дзякуючы гэтаму быў заключаны мір, паводле якога Брачыслаў перабраўся на Кіеўскі стол, а яго дзядзька Яраслаў задаволіўся Ноўгарадам. Эймунд застаўся ў Полацку і паводле меркавання А.Трафімава, стаў князём Полацкім. У Полацку канунг неўзабаве і памірае.

Ці быў Эймунд князём Полацкім, ці толькі выконваў у адсутнасць Брачыслава ролю намесніка – пытанне спрэчнае. Для нас больш цікавая наступная акалічнасць. Сага паведамляе, што Эймунд прыняў ад князя пэўную тэрыторыю непадалёку ад Полацка: *«Область, лежащую подле, иметь конунгу Эймунду и быть ему там конунгом, пользуясь всеми земскими сборами, какие там положены»*. На думку А Трафімава вобласць каля Полацка, якой валодаў Эймунд – гэта раён Браслаўскага Паазер'я. На гарадзішчы Маскавічы археолагі знайшлі выразныя сляды прысутнасці варагаў – упрыгажэнні, рунічныя (старажытнаскандынаўскія) надпісы. Дададзім да гэтага, што варажскія матэрыялы знаходзілі таксама пры раскопках курганных могільнікаў Укля, Опса.

Як адзначае А.Трафімаў, Браслаўшчына была зручна размешчана ў міжрэччы Заходняй Дзвіны і Нёмана. Магчыма тут існаваў волак паміж важнымі гандлёвымі шляхамі, што забяспечвала эканамічны падмурак уладанняў варажскага конунга.

Прадстаяць далейшыя даследванні ў гэтым кірунку, якія магчыма дазволяць падцвердзіць выказаныя меркаванні.




1-3 - Шыферныя прасслкі з надпісамі.Сярод знакаў ёсць рунічныя. Гарадзішча Маскавічы.
Варажскія ўпрыгажэнні:
4,6 - Фібулы з гарадзішча Маскавічы
5 - Зашпілка (фібула) з гарадзішча Маскавічы

## Гартаючы старыя газеты

### Браслаўская хроніка.

* Самаахвярнасць, вартая пераймання.

Толькі той можа ўявіць сабе самаахвярную, поўную цяжкасцей працу машыніста вузкакалейкі Дукшты – Друя пана Цыўнэліса, хто сярод снежнай завеі і праз тысячы перашкод часамі няўдзячнага надвор'я, падарожнічаў па гэтай няшчаснай і годнай нашага спачування лініі.

23 ці 24 студзеня бягучага года пан Цыўнэліўс, не звяртаючы на снежную завею, узяўся весці цягнік да Дукштаў. Заледзьве даехалі да Опсы, як на вялікае шкадаванне няшчасных пасажыраў, атрымалі рэкамендацыю затрымацца ў Опсе. Бо, па сведчанню аднаго з працаўнікоў чыгункі, снежныя сумёты не дазвалялі даехаць да канчатковага пункта. Пан Цыўнеліс, не губляючы пачуцця гумару, сказаў: "Неяк будзе...", і не зважаючы ні на што, закатаў рукавы і рушыў у дарогу. У самых замеценых месцах ён уласнаручна з дапамогай пасажыраў раскідваў снег. Пот заліваў вочы, але можна было рушыць далей. Абы толькі вытрымаць. Так на працягу амаль усёй начы гэты нястомны чалавек змагаўся з завеяй . Пасля цяжкіх трудоў, сыходаў з рэек, нарэшце на платформе (вымушаны быў ужо пад Дукштамі адчапіць частку цягніка) дабраўся да мэты і паспеў да цягніка на Вільню. Адзначу, што толькі той можа зразумець гэтую вялікую самаахвярнасць, хто хаця б аднаго разу ехаў на машыне "Piequtku". Гэтаму машыністу трэба выказаць вялікую ўдзячнасць.

Schab.

* Электрыфікацыя Браслава.

Неўзабаве ў Браславе будзе пушчана электрастанцыя, якая аддадзена гмінай ў арэнду прыватнаму прадпрыемству са Свянцян. Падрыхтоўчыя працы ўжо заканчваюцца.

* Аблава на ваўкоў.

Ужо з тыдзень па мястэчку цыркулюе паталоска, што ў Браслаў на аблаву на ваўкоў збіраюцца прыехаць шаноўныя асобы. Хто ж гэта? Пан міністр Рамоцкі, пан віцэ-міністр унутраных спраў і пан ваявода Рачкевіч. Варта, каб гэтыя дастойныя асобы ўзімку завіталі да нас і пераканаліся ў стане нашых камунікацый ды іншых рэчах.

Kurjer Wileński (Wilno) 4 lutego 1928 г.
Пераклад з польскай мовы.

# Ліст да Браславянаў. Снежань 2001 г.

«Ліст да Браславянаў» – такую назву мае інфармацыйнае выданне, якое рыхтуецца ў Ольштыне (Польшча) сіламі Таварыства Браславян у Польшчы. Яно выходзіць некалькі разоў на год (з 1995 г.) звычайна на 8 старонках А-4 фармату. Выданне змяшчае бягучую інфармацыю, якая ў асноўным датычыцца дзейнасці таварыства, а таксама Браслаўскага аддзялення Саюза палякаў на Беларусі.

Перад Новым годам Юзаф Далецкі (Жэшуў) даслаў апошні снежаньскі нумар "Ліста".

Ён змяшчае віншаванні са святам Божага Нараджэння і Новым Годам. Ёсць весткі з Браслаўшчыны. Яны ў асноўным датычацца візітаў у Браслаў прадстаўнікоў польскіх дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый: Браслаўшчыну наведалі яе выхадцы, сябры Таварыства Браславян (30.04-2.05. – група з Ольштына, 28.06-2.07 – група з Кентшына). Ёсць інфармацыя аб адпачынку пяці груп дзяцей з Браслаўшчыны ў розных мясцовасцях Польшчы.

Шмат матэрыялаў выдання прысвечана ксяндзу Антонію Ласю, які памёр 23 жніўня 2001 г. Апошнія гады ён працаваў пробашчам у Ідолце. Антоні Лось нарадзіўся на Глыбоччыне ў Мосарскай парафіі 17 верасня 1917 г. У 1933-38 гг. вучыўся ў Друйскай гімназіі айцоў Марыянаў. У Друі ён уступіў у гэты манаскі ордэн. З 1938т г. жыў на тэрыторыі Польшчы . У 1946 г. стаў святаром, працаваў у розных мясцовасцях. У 1988 г. вярнуўся ў Беларусь, пачаў аднаўляць касцёл у Друі і Росіцы, узвёў храм у Павяцце. З 1990 г. пробашч у Ідолце, праводзіў набажэнствы у Друі і Росіцы. Перад смерцю лячыўся ў Варшаўскіх шпіталях. Пахаваны ў Варшаве.

На апошняй старонцы выдання змешчаны артыкулы з газеты "Kurier szczeciński", у якім расказваецца пра адпачынак дзяцей з Браслаўшчыны.

Пазнаёміцца з "Лістом да Браславян" можна ў бібліятэцы музея.

---

## Выдавецкія навіны

У канцы 2001 г. аддзел беларусазнаўства і краязнаўства Віцебскага абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай працы выдаў зборнік "Гонар і слава Віцебшчыны". Метадычнае выданне было падрыхтавана на аснове краязнаўчага конкурсу "Гісторыя славутых родаў Беларусі", праведзенага ў 2000 г. Зборнік надрукаваны пры дапамозе Віцебскага аддзялення фонда імя Л.Сапегі. Кніга найперш разлічана на кіраўнікоў краязнаўчых гурткоў, настаўнікаў, зацікаўленых чытачоў. На яе старонках змешчана толькі некалькі даследванняў, якія, як спецыяльна адзначылі ўкладальнікі, адрозніваюцца методыкай вывучэння краязнаўчага матэрыялу.

Гонар і слава Віцебшчыны

Адзін з раздзелаў зборніка прысвечаны даследванням радаводаў Віцебшчыны. Праца гуртка "Арганаўты мінулага" СШ№3 г.Мёры "Культурна-асветніцкая дзейнасць роду Лапацінскіх на Мёршчыне" распачынае зборнік. Яна ўяўляе сабой сур'ёзнае даследванне з выразна акрэсленнай генеалогіяй, уключае шмат дакументальных звестак і фактуры, упершыню ўведзенай у навуковы ўжытак. Работа выглядае цэльным комплексам – там можна пазнаёміцца з мэтамі і задачамі працы, атрымаць неабходныя звесткі па гісторыі роду Лапацінскіх, гісторыі іх уладання – зараз занядбалай вёскі Лявонпаль. Раскрываюцца даволі рэдкія тэмы: гаспадарчая і асветніцкая дзейнасць роду Лапацінскіх. Аналізуюць аўтары і такія высокія чалавечыя якасці як унутраная культура душы і патрыятызм. Праца гуртка багата ілюстраваная, мае спіс архіўных і літаратурных крыніц.

Аб даследванні вучаніцы 11 класа Браслаўскай СШ№1 "Радавод святароў сям'і святароў Васілеўскіх" ужо паведамлялася на старонках "Павета", а ў №4 яна друкавалася са скарачэннямі. На жаль, у зборнік не трапіў самы цікавы дакумент, у якім святар Уладзімір Васілеўскі пасля сваёй смерці пакідаў сваю маёмасць, палову – праваслаўнаму брацтву, другую – каталіцкай і яўрэйскай абшчынам.

Трэцяе даследванне прысвечана сучаснікам – працоўнай дынастыі спартсменаў-воднalыжнікаў Геновых, якія жывуць у Наваполацку. Правялі яго наваполацкія краязнаўцы з гуртка "Крынічка" СШ№11 пад началам настаўніцы В.М.Царэнкі. З яго можна пазнаёміцца з лёсам вялікай сям'і ад пачатку XX ст. Але асноўная мэта работы – жыццяапісанне наваполацкага адгалінавання, якое дало Беларусі знакамітых спартсменаў і трэнераў.

Чарговы раздзел кнігі прысвечаны працам, якія складальнікі вылучылі за із карысныя накірункі і творчыя здабыткі. Творчы калектыў Высачанскай СШ Лёзненскага р-на паспрабаваў вывучаць гісторыю рода Гуркаў-Рамейкаў найперш з дапамогай навукоўцаў і нашчадкаў. Праца атрымала высокую адзнаку журы. Вобраз тэатральнага дзеяча Ігната Буйніцкага праз прызму беларускай літаратуры раскрыла настаўніца Празароцкай СШ Глыбоцкага р-на В.Д.Гінько. А настаўніца Альбрэхтаўскай БШ Расонскага р-на З.А.Ступакова выкарыстала фальклорную форму аповяду ў сваёй працы.

Безумоўна, усе даследванні маюць практычнае прызначэнне, перадаюць вопыт працы з краязнаўчым матэрыялам. Гэты зборнік добры здабытак на ніве краязнаўства, шкада толькі – наклад малы – толькі 150 асобнікаў.

■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■ ■

## ПРАЦЯГ ПОШУКА

Зімой сябры пошукавай групы "Антытагма" Літоўшчынскай БШ працягваюць пошук матэрыялаў і дакументаў, якія раскрываюць гісторыю нашага рэгіёна (рэгіёна Слабодкаўскага сельскага савета) у гады Вялікай Айчыннай вайны. У снежні сябры групы наведалі Віцебскі абласны архіў. Было знойдзена шмат дакументаў:

а) спісы грамадзян сельсавета, якія валодалі рознымі спецыяльнасцямі;
б) спіс ваеннапалонных за 1941 г;
в) месцазнаходжанне пахаванняў салдат кайзераўскай арміі часоў першай сусветнай вайны;
г) спісы настаўнікаў Браслаўскай воласці за 1941 г.

***Віктар Леўша**, вучань 8 класа Літоўшчынскай БШ.*

## Кутох калекцыянера




Паштоўка пач. XX ст. з калекцыі Вітаўта Ермалёнка. Гэта картка з выглядам касцёла, які будавалі ў Ідолце (Мёрскі раён). Надпісы на ёй запрашалі дапамагчы сродкамі, тым самым прыняць удзел у будоўлі.

## Легенды і паданні роднага краю

### Паданне пра золата, скупога конюха і ліслівую нявестку

Казалі, што ў аднаго конюха, які служыў у пана Мінейкі, было многа золата. Ці то пан яму за добрую работу даў, ці так адкуль было. Былі ў яго тры дачкі і сын. Дачок ён павыдаваў замуж, а сын ажаніўся і жыў разам з бацькам. Конюх быў настолькі скупы, што нават жалеў добра над'есці. За ўсім сачыў, нявестцы, каб яна спякла хлеб, выдаваў муку. Пра тое, што ў яго ёсць золата, ніхто ў сям'і не ведаў. Ды й жонка даўно памерла. Калі конюх захварэў, то закапаў золата пад печак, дзе сядзелі зімой куры. Закопваючы, прыгаворваў: "Чыя рука закапала, тая хай і адкапае." Не хацеў конюх пасля сябе нікому пакідаць багацце, бо быў вельмі скупы. А калі стала яму зусім кепска, стаў ён трызніць і паўтараць гэтыя словы. Ніхто не мог зразумець – пра што гаворыць стары. Толькі нявестка здагадалася. Калі нікога ў хаце не было, яна падцягнула свёкра да печкі і выкапала яго рукой збан з золатам. Казалі людзі, што калі конюх памёр, сын з нявесткай купілі за гэтае золата шмат зямлі і пабудавалі прыгожы дом.



Легенду расказала Палякоўская Ганна Міхайлаўна, жыхарка в.Відзы-Лаўчынскія, 1911 г.н.
Легенду запісалі вучні Відзы-Лаўчынскай БШ

## Увага !!! Конкурс

Падводзім вынікі першага тура віктарыны па гісторыі Браслаўшчыны. Нагадаем пытанні і прывядзем правільныя адказы:

1. Пералічыце як мага больш версій паходжання назвы Браслаў? Ёсць дзве асноўныя гістарычныя версіі: ад балцкага слова "брасл" і ад імя полацкага князя Брачыслава Ізяславіча, а таксама некалькі версій, звязаных з некаторымі легендамі.
2. Пад якой яшчэ назвай вядома возера Дрывяты? Браслаўскас, Вялікае.

Вычарпальныя адказы даслала вучаніца 6 "Б" класа Браслаўскай гімназіі Надзя Бунта (в.Пагошча), якая і прызнана пераможцам. Ёй будзе ўручаны камплект паштовак "Гісторыя Браслава ў малюнках" з аўтографамі аўтараў. Нашыя віншаванні пераможцы і зычанні поспехаў у далейшым.

Прапануем два пытанні наступнага туру. Прызам для пераможцы будзе зборнік матэрыялаў канферэнцыі "Браслаўскія чытані-2000". Нагадаем, што кожны тур віктарыны самастойны, але найбольш актыўныя ўдзельнікі будуць адзначаны рэдакцыяй. Чакаем адказаў да 20 лютага

ПЫТАННІ

1. Цяпер Браслаўская прыходская царква называецца Свята-Успенскай. У даўнія часы яна называлася Мікалаеўскай. Калі адбылася змена назвы і пры якіх абставінах?
2. Пералічыце вядомыя вам прозвішчы архітэктараў, якія працавалі на Браслаўшчыне і іх творы.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко, Людміла Пупіна

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»